Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 36 Нядзеля, 19-га Кастрычніка 1924 г. Год I.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць тры разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр. у тэксьце — 10 гр. на апош. стар.— 5 гр.

## АБВЕСТКІ:

**Часовая Беларуская Рада зьмяшчаецца на Нямецкай вул. Hotel „Palace“, пакой № 154.**

**Інтэрэсанты прымаюцца ад 9 — 11 гадз. раніцай.**

### Настаўнікам пачатковых школаў.

Школьная Камісія Часовай Беларускай Рады гэтым абвяшчае, што, ў зьвязку з адчыненьнем беларускіх школаў, усім зарэестрованым Камісіяй настаўнікам прапануецца: 1) прыслаць свае адукацыйныя дакумэнты і жыцьцярысы; 2) даныя аб тым, дзе магчыма адчыніць школы (ці ёсьць адпаведныя будынкі); 3) сабраць подпісы ня менш як 40 бацькоў, якія аддадуць сваіх дзяцей у беларускія школы; Подпісы павінны быць зацьверджаны солтысам і войтам; 5) якая школа зьяўляецца пажаданаю — чыста беларуская, ці двухмоўная.

У выпадку, якіх-нібудзь тэхнічных труднасьцяў, ці перашкодаў з боку мясцовае ўлады, незабаўна паведамляць Школьную Камісію па адрэсе: Wilno, ul. Niemiecka, Hotel „Palace“, Białoruska Komisja Szkolna.

Вакансіі будуць замяшчацца ў парадку паступленьня заяваў.

**Школьная Камісія Час. Бел. Рады.**

# Адзіны спосаб.

Кожнаму ясна, што ёсьць толькі адзін спосаб аздараўленьня ненармальнага крэсовага жыцьця.

Спосаб гэты ясны і просты — безадкладна й рашуча пачаць тыя рэформы, якія далей адкладу цярпець ня могуць.

Мы пісалі аб тым, што дэлегацыя Часовай Беларускай Рады дабілася ў Варшаве ад п. Міністра Прасьветы магчымасьці незабаўна пачаць закладаньне ў нашых вёсках беларускіх школаў там, дзе гэтага само насяленьне захоча.

I справа гэтая стаіць першаю ў чарзе рэформаў.

Нам здаецца, што аўторытэтныя прадстаўнікі Польскага Ураду на вецер словаў ня кідаюць і што было сказана беларускай дэлегацыі ў Варшаве — сказана было ясна й сур'ёзна.

Як-жа спрытна падхапляе „Сялянская Праўда“ інформацыі „Dziennika Wileńskiego“, быццам, будучы ў Вільні, Міністар Прасьветы, ў гутарцы з прадстаўнікамі прэсы сказаў аб школьных справах нацыянальных меншасьцяў, што справы гэтыя davaлоуцца рэалізацыі толькі у 1925 — 1926 школьным годзе, дзеля таго, што бягучы школьны год мае служыць толькі падгатаваўчым часам.

Мы ня ведаем, што сказаў пан Міністар Прасьветы ў гутарцы з прадстаўнікамі прэсы ў Вільні, але што ён казаў дэлегацыі Часовай Беларускай Рады ў Варшаве намі перадана да агульнага ведама і ў праве сваім на родныя школы мы пэўны.

Калі на шляху школьнае рэформы стаяць якія-нібудзь тэхнічныя труднасьці, дык яны павінны быць рашуча ўхілены, дзеля таго, што з рэформай гэтаю адкладу быць ня можа.

Мы вельмі добра разумеем, чаго цешыцца „Сялянская Праўда“ з інформацыяў „Dziennika Wileńskiego“.

Газэта гэтая, ахапляючы сваім духам навет і Беларускі Пасольскі Клюб, гэтак сама вельмі добра разумее, што чым больш справа нашых родных школаў будзе стаяць на адным мёртвым пункце, тым больш грунт будзе для дэмагогічнай агітацыі проці ўсяе тае беларускае працы, якая вядзецца не староньнікамі „Сялянскае Праўды“ з яе ўсходняю орыентацыяю.

Нанятыя Камінтэрнам працаўнікі „Сялянскай Праўды“ ведаюць адзін толькі прынцып: „хто ня з імі, той проці іх“.

I трымаючыся гэтага гатэнтоцкага прынцыпу, яны бачаць сучок у вачох сваіх праціўнікаў, не заўважаючы цэлых бярвеньняў у вачох тых, хто лічыцца ў іхнім лагеры.

Набіраючы штораз болей бальшавіцкага стылю ў яго самым ваяўнічым ваенным пэрыядзе, тыя, хто сам сябе тытулуе „паважнымі беларускімі дзеячамі“, згубілі ўсялякую этыку на шпальтах „Сялянскае Праўды“ і лезуць на сьцену ад злосьці, пачуваючы пад нагамі няпэўны грунт.

Аб „павазе“ некаторых з сваіх аднадумцаў, як гэта ні балюча для нас, нашы палітычныя праціўнікі могуць даведацца хаця-бы з аддзелу хронікі некаторых мясцовых газэт, у якіх часамі дзе-што ў гэтым сэнсе прачытаць знайдзецца і на што нічым ужо зарэагаваць нельга, бо выглядае ўсё гэта так, што самы просты беларускі селянін толькі рукамі разьвядзе ды скажа: „I сьмех і гора“.

Толькі безадкладная, незабаўная рэалізацыя нашых школьных магчымасьцяў у першую чаргу ўціхамірыць істэрыку нашых палітычных ворагаў, нажаль, з роднага нашага беларускага лагеру, і ня дасьць ім аканчальна зьехаць з глузду.

Бо проці сваіх родных школаў, аб патрэбе якіх і яны на свой лад крычалі, ўсё-ж такі агітаваць ня сьмеюць, хаця ўсякая нездаровая агітацыя зьяўляецца іхнім будным хлебам.

Сьмелыя рэальныя рэформы зьяўляюцца адзіным спосабам аходаць агітацыю тых, хто на што іншае няздольны, і спосаб гэты павінен быць ужыты, каб, баламучаныя дасюль дэмагогамі, беларускія масы маглі спакойна аддацца сваёй нацыянальнай творчасьці ў імя свае-ж уласнае лепшае будучыны.

Толькі ў рэформах, а ня ў іншым чым, разгадка ўсяго балючага *крэсовага* пытаньня.

Гэта робіцца ясным ня толькі для нас адных, гэта штораз часьцей паўтараецца сярод болей цьвярозых ненацыяналістычных польскіх кругоў, аб чым можна блізу штодня даведацца са шпальтаў лявіцовых сталічных польскіх газэт.

# Палітычны агляд.

Англія заўсёды была і ёсьць прымернікам парлямэнтарызму. Маючы ў сябе парлямэнт ад XIV стал., яна выпрацавала моцныя парлямэнцкія традыцыі, якія служаць прымернікам для ўсіх контынэнтальных дзяржаваў. Дзеля гэтага, выбары ў Англіі заўсёды зьвярталі на сябе агульную ўвагу, дзякуючы сваёй прымернай арганізацыі, а асабліва цяпер, калі разьбіліся партыі, ня выходзячы аднак за межы законнасьці. Асаблівасьцю ангельскага парлямэнтарызму пачатку XX стал. было тое, што там заўсёды змагаліся дзьве палітычныя партыі: партыя торыяў, або, як цяпер яна завецца, партыя консэрватыўная і партыя вігаў або лібэралаў, якія мала адна ад аднэй розьніліся. I заўсёды адна з гэтых партыяў арганізавала ўрад, а другая была ў опозыцыі. I толькі ў пачатку XX стал. выступіла на сцэну трэцяя партыя, рабочая, якая думае цяпер перамагчы ўсіх. Рабочая партыя разьвілася і здабыла сабе моцнае палажэньне ў апошнія 20 гадоў. У 1902 годзе першы раз папалі ў парлямэнт два прадстаўнікі рабочых, якія заснавалі самастойную партыю. I ад гэтага часу рабочая партыя і лік яе прадстаўнікоў у парлямэнце пачаў хутка павялічвацца. У 1900 г. рабочая партыя ў Англіі мела 14.000 сяброў. А на выбарах у 1906 г. ім удалося правесьці ў парлямэнт 29 сваіх дэпутатаў, і рабочая партыя мела ўжо 847.000 сяброў. Пасьля перад вайной гэты ўзрост партыі паменшыўся, дзякуючы таму, што ангельскі лібэральны ўрад зрабіў самыя шырокія соцыяльныя рэформы. Толькі ў час вайны і асабліва пасьля яе йзноў павялічыўся прыплыў рабочых арганізацыяў дзякуючы эканамічнаму крызысу і пашыраўшайся безрабоціцы. У 1918 г. рабочая партыя адтрымала на выбарах 2.244.945 галасоў і правяла ў парлямэнт 57 дэпутатаў. У 1922 г. рабочая партыя адтрымала ўжо 4.236.733 галасы і правяла ў парлямэнт 142 дэпутатаў. А на выбарах у лістападзе 1923 г. лік яе прадстаўнікоў у парлямэнце дайшоў да 192 дэпутатаў пры 4.348.379 галасох. Апроч таго амаль што не да апошняга часу рабочая партыя ад'значалася строгай унутранай дысцыплінай і ўмяркованым радыкалізмам.

Гэткі хуткі ўзрост рабочай партыі закруціў галаву яе павадыром і павадыр ангельскіх рабочых, цяперашні прэм'ер Макдональд

паставіў сабе мэту перамагчы ўсіх, каб ня быць больш залежным ад лібэралаў або консэрватараў, дзеля таго, што цяпер рабочая партыя складае ў парлямэнце меншасьць і навет па ліку меншая за партыю консэрватыўную. Але няма ведама, ці яму ўдасцца зьдзейсьніць сваё лятуценьні, дзеля таго, што яго палітычныя праціўнікі дагадаліся аб яго думках і стараюцца як-ні-як не дапусьціць, каб перамагла рабочая партыя, якая магла-б давясьці да дыктатуры аднае партыі. Дзеля гэтага, консэрватары ды лібэралы дагаварыліся, каб не перашкаджаць адны адным у тых вакругох, дзе, апрача іхніх кандыдатураў, выстаўлена й кандыдатура рабочай партыі. Ангельская сыстэма выбараў, як ведама, абапёрта на тым, што ўся Англія дзеліцца на пэўны лік выбарных вакругоў і ў кожным вокрузе выбіраюць аднаго дэпутата, адтрымаўшага найболей галасоў. Калі напр., у нейкім вокрузе змагаюцца тры кандыдаты трох розных партыяў і адзін з іх адтрымае хаця на адзін голас болей за кожнага з ягоных праціўнікаў, дык ён будзе пераможцам, хаця й ня мае абсолютнай большасьці. Гэтым і тлумачыцца дзеля чаго ў 1922 г. рабочая партыя адтрымала 142 мандаты пры 4.236.733 галасох, а ў 1923 г., амаль што пры гэткім самым ліку галасоў, адтрымала 192 мандаты. Гэтак сталася дзякуючы энэргічнаму змаганьню між сабой консэрватараў з лібэраламі, якія перашкаджалі адны адным, даючы магчымасьць выйграць трэцьцяй партыі, рабочай. Вось дзеля гэтага, каб ня было гэткага ўзаемнага зьнішчажэньня, консэрватары і лібэралы дагаварыліся выстаўляць аднаго кандыдата ў тык вакругох, у якіх выстаўляюць свайго кандыдата й рабочыя. Пры гэтым зьнімаецца кандыдатура таго дэпутата, які на леташніх выбарах адтрымаў менш галасоў. Гэтага адзінага фронту проці рабочай партыі лідэры апошняй мабыць не спадзяваліся.

Але гэтым уся небясьпека для рабочай партыі яшчэ не абмежавалася. У той час, як лібэралы і консэрватары дзеля небясьпекі для іх з боку рабочай партыі ўтварылі адзіны фронт, каб не прапаў дарма ніводзін голас выбаршчыка, сама рабочая партыя ў гэты раз выступае разрозьненая. На гэтых выбарах выступае як самастойная партыя чацьвёртая група—камуністых, якая выставіла сьпісак сваіх уласных дэпутатаў і абвясьціла самастоўную праграму, прадыктованую мабыць з Масквы. Гэтак здарылася дзеля таго, што на апошнім конгрэсе рабочай партыі, зачыніўшымся пасьля роспуску парлямэнту, было пастаноўлена выкінуць камуністых з рабочай партыі, якія імкнуцца толькі да развалу рабочага руху. Апрача таго, было пастаноўлена не галасаваць на выбарах за камуністычных кандыдатаў. Абедзьве гэтыя рэзалюцыі былі прыняты 1.604.000 галасоў проці 1.540.000. Гэткім чынам, галасы падзяліліся амаль што на роўныя часткі. Гэта даказвае, як ужо моцны бальшавіцкі рух сярод ангельскіх рабочых. А дзеля таго, што камуністыя былі вельмі нездаволены рабочым кабінэтам Макдональда, ня гледзячы на тое, што ён, толькі дзякуючы ім, праваліўся, дык трэба спадзявацца самай рашучай барацьбы староньнікаў камуністычных і рабочых дэпутатаў у адных і тых самых вакругох. Гэта могуць лёгка выкарыстаць іх праціўнікі, якія выступаюць салідарна, а рабочая партыя, загадзя спадзяваўшаяся ўдачы, можа прайграць справу. І пасьля гэтага, быць можа, ніколі больш ужо ня возьме ў свае рукі ўлады.

# ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

## У Польшчы.

У Варшаву вярнуўся пасол Тугут. Пасол Ст. Грабскі вернецца толькі на гэтым тыдні, пасьля чаго зараз-за пачнуцца паседжаньні камісіі для акраінных справаў.

Маршалак Сойму п. Ратай адбыў 17 гэт. месяца конфэрэнцыю з рэфэрэнтам закону аб арганізацыі найвышэйшых ваенных уладаў п. Станіслав. Дамброўскім, які заявіў, што рэфэрат будзе гатовы ў першых днёх лістапада і камісія зможа пачаць паседжаньні.

Прыпушчаюць, што віцэміністрам для акраінных справаў будзе назначаны адзін з парлямэнцкіх дзеячоў, браўшы удзел у працах над языковымі законамі.

Ваенны міністар гэнэр. Сікорскі мае вярнуцца з Парыжу раней, чымся гэта прадбачвалася.

Старшыня рады міністраў п. Ул. Грабскі 16 гэтага кастрычн. меў конфэрэнцыю з міністрам зямельных рэформаў п. Копчынскім аб справе новага законапроекту аб выкананьні зямельнае рэформы, які законапроект урад замерваецца ў найбліжэйшым часе прадставіць у Сойм.

Парадак дня першага пасьля вакацыяў паседжаньня Сойму, якое адбудзецца 24 гэтага кастрычніка, складаецца з аднаго толькі пункту — першага чытаньня бюджэту на 1925 г. і фінансавага законапроекту.

## За граніцай.

Як паведамляюць з **Нью-Іорку**, абвешчаная падпіска на пазыку для **Нямеччыны** была пакрыта з лішкаю ў першыя-ж дні.

У **Швэцыі** кароль паверыў сфармаваньне ўраду социял. Бранцінгу.

Як тэлеграфуюць з **Эгіпту**, вагабіты заявілі, што яны гарантуюць бясьпеку чужаземцаў у Мэццы. Вагабіты занялі Мэку. У месьце спакойна.

Паводлуг вестак з **Лёндану**, і там запісы на **нямецкую** пазычку перавысілі падпісную суму.

Аг. Рэйтэра паведамляе з **Токіо**, што японскі пасол у **Пэкіне** перадаў кітайскаму ўраду ноту, ў якой пацьвярджаецца нэйтралітэт **Японіі** і зьвяртаецца ўвага на неабходнасьць забясьпечыць японцаў, якія жывуць у Манголіі і Манджурыі.

У **Югаславіі** кабінэт па трэбаваньню караля падаўся ў адстаўку.

Паводлуг статыстычных ведамасьцяў аб палітычных арыштантах у **Літве**, пад сьледзтвам усяго знаходзяцца 169 чалавек, з якіх палякоў—62, немцаў — 38, жыдоў — 36 і ліцьвіноў—3.

Паводлуг паведамленьня з **Шанхаю**, салдаты, якія уцяклі з фронту, аграбляюць ваколіцы. Аддзел з 1000 салдатаў уварваўся ў Шанхай і замерваўся разграбіць францускія кварталы. Францускія матросы адагналі дэзэртыраў. Варта ў эўропэйскіх кварталах узмоцнена.

У **Францыі** нарастае трэбаваньне зьнішчэньня **нямецкіх** фабрык, у якіх вытвараюцца цэпэліны.

У **Гішпаніі** кароль прыняў адстаўку высокага камісара ў **Мароко** і назначыў гэн. Прыма-дэ-Рывэра камісарам і камэндантам Мароко. Прыма-дэ-Рывэра застаецца адначасна прэзыдэнтам дырэкторыі.

Як тэлеграфуюць з **Бэрліну**, заграрічная дэлегацыя **расейскае** соц.-дэм. партыі паведамляе, ня гледзячы на савецкія запярэчаньні, аб галадоўцы палітычных арыштантаў на **Салавецкіх** астравох.

У **Каіры** офіцыяльна паведамлена, што магчымы напад вагабітаў на **Палестыну**. Урад **Эгіпту** загадзя абвясьціў нэйтралітэт у гэткім выпадку.

У **Францыі** фінансавая камісія парлямэнту пастанавіла стрымацца ад вырашэньня пытаньня аб адмене пасольства ў **Ватыкане** да выясьненьняў ураду. Тое самае пастаноўлена датычна крэдыту ў 448.000 франкаў на пасольства ў С. С. Р. Р. Пастаноўлена затрэбаваць ад прэм'ера Эрыё аб'ясьненьняў аб яго паглядах і замерах датычна пасольства ў С. С. Р. Р.

З **Белграду** паведамляюць, што дэлегацыя ад Ерусалімскага патрыярха прыбыла да караля **Югаславіі** Аляксандра з просьбаю прыняць протэктарат над Хрыстовым Гробам у Ерусаліме. Протэктарат раней належаў да расейскага імпэратара. Прыняцьце протэктарату роўназначна прыняцьцю вярхоўнасьці над усёю праваслаўнаю цэркваю з 240 мільёнамі веруючых.

Як тэлеграфуюць з **Парыжу**, ваенны суд у **Нансі** вынес пастанову па справе нямецкіх гэнэралаў і афіцэроў, расстраляўшых масу жыхароў ў Гарб-Віле ў Лётарынгіі пры ўступленьні нямецкіх войскаў. Сямёх засуджаны на расстрэл, рэшта на 20 гадоў катаргі.

---

**ЯЗЭП МАСКОФФ.**

# У Горнай Дамброве.

Сцэнічны абразок у адным акце.

*Пераклад з польскага.*

АСОБЫ:

**Стары шахцёр.**
**Яго жонка.**
**Яго дачка.**
**Штыгар**, вучань тэхнічнай шахцёрскай школы.
**Капітан.**
**Казакі.**

Рэч дзеецца ў Горнай Дамброве ў час забастоўкі. *)

ЗЬЯВА І.

Сцэна прадстаўляе невялічкую цёмную і надта ўбогую хату. Сьцены зусім пустыя, у глыбіні вакно і дзьверы. Печка, ўлева нары, на якіх ляжыць хворая *Жонка* з галавой абвязанай рызьзём. Як заслона адчынілася, на сцэне апрача *Жонкі* нікога нямашака. Чутно толькі яе стогны, а пасьля здалёк чутно званкі і ціхае надходзячае пяяньне казакоў. Чутно голас запявалы, а пасьля хор паўтарае песьню з акомпаніямэнтам янычарскіх званочкаў. Дзьверы адчыняюцца і ўбягае *Дачка*, маладая дзяўчына, бедна апранутая, з рукамі зьнішчанымі вуглём. Уляцеўшы ў хату, зачыняе за сабой дзьверы. Стаіць праз момэнт, ня кратаючыся.

**Маці.** Хто... прыйшоў?

**Дачка.** Я, мамка.

**Маці.** Дзе бацька?

**Дачка.** Ня ведаю.

**Маці** (*прыслухоўваючыся*). Хто гэта грае? Што гэта зьвініць?

**Дачка** (*кідаючыся да Маці ў крыкам*). Мамка! войска ўжо прыйшло!

**Маці.** О, Божухна! казакі... нагайкі... о!.. гэта яны граюць — гэта яны — але, але — як была я ў горадзе... на службе... няраз іду па вуліцы і, чую, гэтак сама пяюць... (*пачакаўшы*) як нячыстая сіла...

**Дачка** (*нэрвова*). Мне жудасна, мамка, як яны гэтак пяюць. Я ня ведаю чаму... ў мяне ажно ў грудзёх нешта рвецца.

**Маці.** І мне таксама, дачушка, і мне... А кожны з іх мае за халявай нагайку... але не для каня... (*Пяяньне ўжо надта блізка*).

**Дачка** (*стоячы на каленах пры ложку, закрывае далонямі вушы*). Ня слухайце, мамка... ня слухайце...

**Маці** (*закрывае вушы*). Ня слухаю, дачушка, ня чую...

(*Пяяньне з гоманам пераплывае міма вакна і заціхае ўдалечку*).

ЗЬЯВА ІІ.

Як пяяньне скончылася, чутно стук у вакно. *Дачка* ўскаквае і бяжыць да вакна. У вакне зьяўляецца *Штыгар* і кажа кароткім, парваным голасам:

**Штыгар.** Прыйшлі... скажы бацьку, каб не палохаўся і моцна трымаўся свайго — я йду ў іншыя хаты — таварышы таксама робяць абход.

**Дачка.** Бацькі няма.

**Штыгар.** Я вяртаючыся зайду яшчэ сюды. Можа знайду яго. Бывайце здаровы!

**Дачка** (*нясьмела*). Я хацела спытацца...

**Штыгар.** Што? кажы, дзетка, хутка, бо патрулі ўсюды ходзяць. Яшчэ мяне тут зловяць.

**Дачка.** Ці... яны... нас... нагайкамі прымусяць ісьці ў шахту?

**Штыгар** (*з сілай*). Ніякая нагайка ня можа прымусіць вас уступіць.

**Дачка.** Не... не... паночку, я ведаю... я памятаю, што вы гэтак хораша казалі, але... можа... яны страляць будуць.

**Штыгар.** Ну... няма рады. Гэткая сьмерць— гэта харошая сьмерць... Бацьку я аддаю пад твой дагляд. Я з ім сягоньня спаткаўся. Круціўся чагосьці каля канторы... Не хацеў глянуць мне ў вочы... Сачы за ім...

**Дачка.** Добра, паночку!

**Штыгар.** Іду... скажы бацьку, што яшчэ прыйду. (*Зьнікае*).

*) Горная Дамброва (Dąbrowa Górnicza) — мястэчка ў б. Петракоўскай губ., дзе ёсьць багата шахтаў з каменным вуглем. Перакладчык.

